Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 13. Вільня, 1 чэрвеня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## АНГЕЛЬСКА-САВЕЦКАЯ ХМАРА.

Паміж Англіяй і Савецкаю Расеяй ніколі ня было добрых спакойных адносін. Ад самага дня падпісаньня ангельска-савецкае гандлёвае ўмовы ў сакавіку 1921 году і да сягоньня гісторыя ангельска-савецкіх адносін — гэта ланцуг конфліктаў, якія паўставалі на грунце супярэчнасьцяў ангельскага і расейскага імпэрыялізму на Ўсходзе — ў Турцыі, Індыі, Пэрсіі і ў Кітаі. Але гэтыя конфлікты не насілі такога ўжо вострага характару, каб разрываць нармальныя дыплёматычныя зносіны і гандаль. Пісаліся звычайныя ноты протэсту проціў савецкае агітацыі і на гэтым канчалася. У 1926 годзе, асабліва-ж з пачатку агульнае забастоўкі ангельскіх вуглякопаў, падтрыманай бальшавікамі і хатняе грамадзкае вайны ў Кітаі, вайны, якую Саветы пакіравалі проціў Англіі, адносіны паміж Англіяй і Саветамі значна пагоршыліся і пагоршыліся без надзеі на іх паляпшэньне.

Забастоўка вуглякопаў дорага каштавала Англіі, а яшчэ даражэй кітайскія здарэньні, якія пагражаюць самаму існаваньню Брытанскае Імпэрыі. Бо калі-б удалося Расеі выгнаць Ангельцаў з Кітаю, то гэта само сабою азначала-б пажар у Індыі, Эгіпце і іншых калёніях.

Зусім зразумелая рэч, што Англія спакойна на такую работу бальшавікоў глядзець не магла і рана ці позна павінна была пачаць актыўную варожую палітыку проціў Савецкае Расеі.

Цярпліва чакала Англія таго часу, калі агульная сытуацыя ў Кітаі зложыцца не на карысьць бальшавікоў, калі кітайская нацыянальная рэвалюцыя ступіла на шлях барацьбы з камунізмам. І вось калі месяц таму назад у лагеры кітайскае рэвалюцыі наступіў выразны пералом, калі партыя „Гоміндан“ распалася на два варожыя лагеры, правых (Чан-Кай-Шэк) і левых, Англія, рашыла, што час прыйшоў. Пачынаецца адкрытая варожая палітыка проціў саветаў. Скланіўшы на свой бок Італію, Англія вядзець дыплёматычныя перагаворы з Францыяй і пераконвае яе выступіць проціў Саветаў агульным фронтам. Адначасна з гэтым вядзецца падрыхтоўчая работа ў драбнейшых дзяржавах, як Румынія, Літва і іншыя. Невядома, ці ўдалося Англіі стварыць моцны процісавецкі блёк, але мабыць, што часткова ўдалося. — Іначай Англія, палітыка якое заўсёды была асьцярожнаю, не рашылася-б на такі крок, як поўны разрыў з саветамі.

Гісторыя гэтага разрыву выглядае, паводле словаў ангельскага прэм'ер-міністра Бальдвіна, так. У ангельскім штабе выкрадзены быў вельмі сакрэтны дакумэнт аб збройных сілах Англіі. Ангельскі ўрад рашыў, што гэты дакумэнт выкралі савецкія шпіёны. І вось два тыдні таму ангельская паліцыя абкружае

Савецкае Гандлёвае Прадстаўніцтва ў Лёндане і робіць вобыск, шукаючы нібыто гэтага дакумэнту. Хоць дакумэнту і не знайшлі, аднак, паводле словаў ангельскага ўраду, знайшлі іншыя, вельмі важныя дакумэнты, якія сьведчаць, што гандлёвае прадстаўніцтва Саветаў вядзець у Лёндане шпіёнскую работу, вядзець агітацыю проціў ураду, агітацыю сярод каленіяльных народаў і г. д. На падставе гэных знойдзеных дакумэнтаў, ангельскі ўрад і пастанавіў разарваць дыплёматычныя і гандлёвыя зносіны з Саветамі. Вельмі характарна, што адначасна з вобыскамі ў Лёндане, пачалася вострая кампанія францускага ўраду проці камуністых у Парыжы.

Бязумоўна, што разрыў дыплёматычных і гандлёвых зносін Англіі з Саветамі не азначае яшчэ пачатку вайны, але адно бясспрэчна — разрыў гэты пацягне за сабою вельмі паважныя зьмены ў палітычным жыцьці ўсіх эўропэйскіх дзяржаваў, у тым ліку і Польшчы. Але найбольшых палітычных зьменаў трэба чакаць у самой Англіі і ў Савецкай Расеі, якія ўступаюць у новы этап барацьбы за сваю гэгэмонію ў Азіі. У барацьбе, якая будзе весьціся не на жыцьцё, а на сьмерць, паміж гэнымі дзьвюма імпэрыямі будуць ужывацца самыя розныя сродкі, а між іншым і імкненьне прыцягнуць на свой бок сымпатыі прыгнечаных і колёніяльных народаў, што павядзе за сабою ўзмацненьне нацыянальных рухаў гэтых народаў і замацаваньне іх незалежніцкіх ідэалаў.

---

# Я вольны.

Што мне смутак, што мне гора?
Прэч! — я вольны, як арол!
Мае думкі — хвалі мора,
Слова Воля — мой сымбол.

Гэй, прастор радзімы, мілы!
Я абняць цябе хачу,
Досыць цемры нам магілы,
Досыць сьлёзаў на вачу.

Я зьбяру твой сум адчаю,
У выш бязьмежжа з ім ўзьлячу,
К сонцу дзьверы праламаю,
Цемру зьнішчу, здрузгачу.

Ў хвалях неба я згрунтую,
Знайду „волю без ярма“ —
Волю ясную, сьвятую,
На зямлі якой няма.

Беларусь, куточак родны,
Шчасьця зорамі ўбяру,
Пад вясьняны сьпеў чароўны
Яе ліха заару.

А на гэтым, на папары
Заруніць жыцьцё красы;
Зацьвітуць даліны горы,
Запяюць бары - лясы.

Ты-ж, братко мой, кінеш з тою
Горкай доляй жабраваць...
Дык наперад! Хто са мною?
Сьвятла яснага шукаць.

*Міхась Васілёк.*

# Успаміны з Пэрсіі.

*(Гл. № 12 „Б. Д.“).*

І вось калі я быў ужо ў адлегласьці ня больш дзесяцёх крокаў ад месца, дзе склон гары са спакойнага раптам рабіўся крутым і пераходзіў далей у стромкую сьцяну, па якой з шорахам і шумам каціўся ў прорву жвір і каменьні, скранутыя з месца маім целам, раптам убачыў я перад сабой, трошкі налева ад таго шляху, па якім ехаў, невялічкі горб скалы, свабодны ад жвіру. У адзін момант я павярнуўся на левы бок, перакруціўся раз, другі і за хвіліну, даехаўшы да гарба, пачуў пад сабою голае цела скалы. Я туліўся да яго, ўпіраўся нагамі, абутымі ў мягкія „гэвэ“, ажно пачуў, што затрымаўся на месцы. Некалькі доўгіх хвілін праляжаў я гэтак бяз руху, хціва хапаючы губамі паветра, ўвесь аблíты халодным потам, слухаючы, як сэрца малатком стукала ў маіх грудзёх. Гэтак адпачыўшы трошкі, і пракаўнаўшыся, што страшэнная сьмерць тымчасам мне не пагражае, пачаў я надумваць, як зусім асьмяяць яе. Чакаць, што хто-небудзь выручыць мяне з бяды, было немагчыма. Месца, дзе я ляжаў, ня відаць было са шляху, па якім звычайна хадзілі людзі, а тымчасам сонца пачало ўжо хавацца за вярхоўкі гораў і да заходу яго было ня больш поўгадзіны. Заставалася адно толькі ратавацца самому. Але як? Голай, чыстай ад жвіру, скалы было прада мною ня больш, як пядзі на тры, а далей за ёй пачынаўся стромкі склон і прорва. Адзіны шлях да адкосу, з якога я гэтак нешчасьліва саскочыў, быў увесь засыпаны жвірам. Але толькі на гэным шляху быў ратунак. І вось, паравярнуўшыся на жывот, паволі пачаў я рукамі рэгортваць жвір, ачышчаючы гэткім чынам дарогу. Праз некалькі хвілін, я ачысьціў ад жвіру гэтулькі скалы, што мог ужо стаць на ногі і пасунуцца крыху ўперад і тады пачаў зноў працаваць рукамі. Гэтак паволі дабраўся я да адкосу і, толькі ўзьлезшы на яго, пачуў сябе зусім бясьпечным. Ужо было зу-

* * *

Вечнай памяці
мастака слова
М. БАГДАНОВІЧА.

Граюць словы - пералівы,
Перакатам, песьняй вольнай
Што за гукі, што за дзівы
Льюцца жальбай беспатольнай.
То ракочуць даўняй казкай,
Будзяць цуды - лятуценьні.
Расьцвітаюць дзіва - краскай
Родзяць новыя імкненьні.
То у тон гэльленаў ліры
Голас жаўранка прадвесьня
Заліецца звонка шчыра,
Ў даль нясецца казка-песьня.
Беларусі вобраз мілы
Ўсюды гляне; кожна слова
Поўна нейкай дзіўнай сілы,
У душу ісьці гатова.
Кожна слова — ўжо малюнак,
Кожна слова — сьпеў чароўны,
Кожна слова — поўна думак,
Бору шум яму ледзь роўны.
Частку сэрца ў гэтых словах
Ўклаў поэт сваёй рукою,
Захаваў яго у сковах
Вершу, дзіўнага красою.
Дыямэнты роднай мовы
Йшчэ ня гладкія ад роду,
Трэба сэрца класьці ў словы,
Тады даць у скарб народу.
Дзе-ж пясьняр, тварэц магутны,
Хто стварыў сьвятыя тоны?
Яны ўсюды ужо чутны,
Іх праслухалі мільёны.
Дзе Ён ёсьць? ў якой краіне?
Дух яго цяпер дзе ўецца,
Дзе? Ён пэўна не пакіне
Беларусь, Ён к ёй імкнецца
Хоць яго зямля забрала
На пуховае улоньне,
Прыгалубіла, схавала
Ад бяды, што муча сёньня.
Хоць замёрла яго цела,
Што ў баі з жыцьцём змаглося,
Але рэха песьні сьмела,
Яго песьні, панаслося.
Дух яго ужо бяз конца
Будзе жыць, ня ўмрэ ніколі,
Будзе край свой зваць да сонца,
Край, які ня мае Волі.

*Вітэблянін.*

---

Нязнаны верш МАКСІМА БАГДАНОВІЧА.

## Касьцёл сьв. Анны ў Вільні.*)

Каб залечыць у сэрцы раны,
Забыць пра долі цяжкі глум,
Прыйдзіце да касьцёла Ганны, —
Там згінуць сьцені цяжкіх дум.
Як лёгка да гары, як красна
Узносіць вежы ён свае!
Іх зарыс стройны ў небе ясна
Ізломам дзіўным устае.
А вострыя іх так высока,
Так тонка ў вышу неба ткнуць;
Што міг — і ўжо, здаецца воку,
Яны ў паветры паплывуць.
Як бытцам з грубаю зямлёю
Разстаўся стройны, лёгкі гмах
І вось, чаруючы красою,
Ўступае на блакітны шлях,
Глядзіш, — і ціхнуць сэрца раны,
І забываеш долі глум.
Прыйдзіце да касьцёла Ганны!
Там знікне горэч цяжкіх дум.

(З архіву Р. Земкевіча).

*) Ортографія арагыналу.

---

сім цёмна, калі я вярнуўся да хаты. Каманда пачала ўжо непакоіцца маёю доўгаю адсутнасьцю. Найбольш за ўсіх непакоіўся Карапэт. Калі я расказаў яму, што са мною здарылася ў горах, дык ён цэлы вечар, пакуль не пайшоў спаць, бедаваў і охаў:

— Ох, ох!—бедаваў ён, крупячы галавою,—Вы бы, Вашэ Б-дые, савсэм на смэрт убылись, нэ нада хадыт гарам, хочаш курапатку — на шасэ стрэлай, а зачэм гарам хадыт?

Праўду казаў Карапэтка: пад вечар альбо на раніцы, курапаткі з гораў выходзяць на жыр на шашу, і ў навозе жывёлы шукаюць пажывы. Прыкмеціўшы гэты іх звычай, я вельмі часта страляў іх з самаходу, якога яны менш баяліся, чым ідучага чалавека і дазвалялі пад'яжджаць на адлегласьць стрэлу, ня гледзячы на шум мотору. Як я казаў ужо раней, Мэнджыль зьяўляецца мяжой, паміж, поўнай вільгаці, зелені і лясоў, прыморскай нізінай і гарыстай часткай Пэрсіі, з сухім кліматам і пазбаўленай амаль зусім расьліннасьці, якая расьце толькі засеяная рукою чалавека на палёх, у якія па цэлай сыстэме каналаў, будованых рукамі чалавека, падыходзіць вада з далёкіх крыніц.

Сенажацяў там няма амаль зусім, лясы яшчэ спатыкаеце ў ваколіцах Мэнджылю, але далей на поўдзень, іх няма амаль зусім. Дзе-ня-дзе асобнымі адзінкамі растуць гранатныя дрэвы, прыбраныя некімі шэрымі ад пылу лістамі, і гэткімі-ж шэра-зялёнымі фруктамі (гранатамі). Гранаты маюць велічыню яблыка. Скура на іх сухая і моцная, так што рукою, ці нават ногцямі яе не разьдзярэш. Калі-ж расьцяць скуру гранаты нажом, то ў сярэдзіне знойдзеце чырвоную масу мяздры і соку, атуленых тоненькай празрыстай паволокай, якая разам з гэнай мяздрой і сокам творыць перагародачкі, зросшыяся з сабой, як клеткі ў пласьце мёду. Сок гранатаў кіславаты, салодкі і вельмі асьвяжае чалавека. Некалькі гранатаў у падарожы ў гарачую пару, асабліва ў мясцох, дзе мала вады, — гэта цэлы скарб для чалавека. Дастаюць гэны сок гэткім чынам: Гранату доўга і моц-

# Гэй, ты думка...

Гэй, ты думка, рвіся вольна,
Ты прастор шырокі маеш,
Безгранічна і бяскарна,
Дзе захочаш, там шыбаеш.

Ты ня ведаеш кайданаў,
Ты ня ведаеш утрымку,
Дык ірвіся, маладая,
Бяз устанку, без спачынку.

Думка, хмарка - пералётка,
Думка — краска веснавая,
Я з табой таксама вольны,
Кроў іграе маладая.

Кроў іграе маладая,
Пачуцьця ты будзіш хвалі,
Рвіся-біся, маладая,
Угару, ў блакітны далі.

Сонца, хай цябе гартуе,
Сілу - моц сваю ўлівае,
Ветрык буйны, песьні волі
Хай сьпяваці навучае.

Гэй! ляці у родну вёску,
Распалі надзеі вогнік,
Лепшай долі дай надзею,
Хай пацешыцца гаротнік.

Рвіся ў край агню і стуку,
Ў край жалезнага скрыготу,
Там твой брат таксама стогне,
Ўлі надзею, дай ахвоту.

Дух бадзёры нясі ўсюды,
Дух надзеі, дух яднаньня,
З цемнатою, з злыбядою,
Хай узьнімецца змаганьне.
Бібся ўгору шыбкім лётам,
Азірніся стуль навокал,
Думка, хмарка - пералётка,
Думка - птушка, думка - сокал.

*Вітэблянін.*

## Аб арганізацыі Літоўска-Беларускай камісіі Інстытуту дасьледаваньня нацыянальных справаў.

Паўстаўшы нядаўна ў Варшаве Інстытут дасьледаваньня нацыянальных справаў, пастанавіў адчыніць у Вільні, як аддзел свой, Літоўска-Беларускую Камісію. З мэтай арганізацыі яе прадстаўнікі Інстытуту склікалі дня 10 траўня ў памешканьні пасла Хомінскага ў Вільні людзей, якія цікавяцца гэнай справай і маглі-б прыняць удзел у яе працах.

Паміж прыйшоўшымі на сход былі прадстаўнікі польскага і беларускага грамадзянства. Пасол Тугут, старшыня Інстытуту, выясьніў сабраным мэты і задачы Інстытуту, пры чым падкрэсьліў, што Інстытут мае на мэце вядзеньне навуковых зусім об'ектыўных досьледаў нацыянальнага Беларускага і Літоўскага жыцьця, закранаючы па магчымасьці ўсе галіны яго. Пасьля даволі доўгіх гутарак, у якіх частка прысутных на сходзе беларусаў абгаварвала магчымасьць свайго супрацоўніцтва ў гэнай установе з боку палітычнага, большасьць сходу рашыла выбраць некалькі людзей, для апрацоўкі арганізацыйнага статуту камісіі.

Выпаўненьне гэнае задачы прынялі на сябе рэдактар Л. Абрамовіч грам. Марыян Сьвяхоўскі і пасол сойму Л. Хомінскі.

Для разгляду і прыняцьця статуту быў склікаены сход 20 траўня, на які апрача прадстаўнікоў польскага і беларускага грамадзянства прыйшлі і прадстаўнікі грамадзянства літоўскага. Пасьля прыняцьця сходам арганізацыйнага статуту камісіі і выясьненьня паслом Хомінскім, што прыняцьце удзелу ў працах камісіі яшчэ не азначае прыняцьця на сябе адказнасьці за працу Інстытуту, бо працаваць у камісіі могуць і не сябры Інстытуту, ўсе прысутныя на сходзе Беларусы, Ліцьвіны і Палякі запісаліся ў розныя падкамісіі, якія ў найбліжэйшым часе будуць скліканы на арганізацыйныя сходы і намэцяць плян свае працы.

---

на ціскаюць у далонях, каб парваць павалочкі клетак, у якой знаходзіцца сок. Скончыўшы гэну работу, ў скуры гранаты ножыкам робяць дзьве дзірачкі, адна проці аднэй і пачынаюць смактаць.

Зьмена клімату кладзе свой адбітак ня толькі на расьліннасьць, але і на спосаб жыцьця людзей. У прыбярэжнай паласе хаты пабудованы найчасьцей з дрэва, і рэдка калі з цэглы. Стрэхі іх вельмі стромкія, каб лёгка магла сплываць з іх вада. У сухой частцы Пэрсіі, ўжо ў Мэнджылі—хаты пабудованы выключна з гліны і фашыны, а то проста з аднае толькі гліны, страха тутакі ня мае ніякага скату, або лепей сказаць, хаты тутакі зусім ня маюць стрэх. На сьцены хаты кладуць тонкія жэрдачкі, пераплятаюць іх фашынаю, абмазваюць зысподу і згары глінаю — вось разам і стол і страха. І гэткая будыніна трывае вельмі доўга, бо дажджу тутакі зусім амаль ня бывае, толькі зімою часам папырскае трошкі, як з сіта некая заблудзіўшая хмарка, а так, дык усьцяж стаіць пагода і сонца пячэ. На гэткую страху ўвечары, пасьля захаду сонца, калі сьвежы вецярок павее ад гораў, пэрсы выходзяць пагуляць, — падыхаць сьвежым паветрам, часта і сьпяць усю ноч. Часам некі рамантык, заглядзеўшыся ў белы твар поўнага месяца, пачынае пяяць свае дзіўныя песьні. Ну! — тады затыкай сабе вушы і ўцякай далей ад яго, бо запраўды дзікая незразумелая для нас, мэлёдыя яе, пяяная найчасьцей ахрыплым гнусавым голасам, больш падобна да крыку ішака, чым да песьні.

Ад Мэнджылю шлях ідзе яшчэ вышэй у горы, прабіраючыся паміж голых скалаў, над страшэннымі прорвамі, і вырваўшыся з іх абняцьця, прабягае плоскаўзвышшам аж да Казьвіну.

Канчаючы апісаньне нізіннай прыморскай паласы, на мяжы якой знаходзіцца Мэнджыль, прыпамінаю яшчэ адно цікаўнае месца ў Мэнджылі; гэта—крыніца гарачай вады, якая выбіваецца з вярхоўкі скалы, недалёка ад гораду. Каля крыніцы, выдзяўблены ў скале вадаём, у якім можна купацца. Купель гэная вельмі прыемна зімою.

**Дзядзька Пранук.**

(*Працяг будзе*)

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Аб варажбе земляроба.

Селянін-земляроб каторы вядзе культурна сваю гаспадарку, не павінен прытарноўвацца да варожбаў у галіне севу яравога хлеба. Сеяць азіміну ніякай варажбы няма. Звычайна сеў азіміны праводзіцца ў пэрыяд між большай і меншай Прачыстаю, гэта знача ад 15 жніўня да 8 верасьня. Гэтых колькі дзён называюць „Красным севам". Да гэтага, ці пазьней гэтага, сеў азіміны лічыцца непрактычным.

У прыроды-маткі бяссумліўна ёсьць многа патаёмнасьцяў, але калі гэтая патаёмнасьць не зрэалізована на нашых вачох, дык няма сэнсу тады верыць у тую ці гэную варажбітоўскую недарэчнасьць. Напрыклад, кожны земляроб варожа на тое, каб пасеяць, скажам, авёс поўначай, ці на ўсход месяца, ячмень — на сход месяца, а гарох калі хочаш, але каб не маладзіком. Тут у гэтай варажбе пэўна крыху будзе сэнсу, бо, як ведаем, месяц маець уплыў на адліў і прыліў вады. Ці маець уплыў на сяўбу вецер? Можна свабодна сьцьвярдзіць, што не, хоць некаторыя сяляне не пачынаюць сеяць, напрыклад, з усходу ці заходу, абы ня з пустога вугла (паўднёвы-зах., паўн.-ўсход ці інш.).

Дзе мала працьвітаець культура, там найгорш верадь у варажбу і гэта варажба рэдка калі спраўджаецца. Каб ня была чарвівая бульба, ня можна яе садзіць ў трэцяй квадры (ветах) і тады, як цьвіце чаромха. Ня сеюць буракоў у дні ад Юр'я да Міколы. На гэта ёсьць і прыслоўе: „Ад Юр'я да Міколы ня сей буракоў ніколі".

Каб вырасьлі вялікія гуркі, дык у той дзень, як іх садзіць, трэба торбу з каменьнямі пацягаць па лясе. А яшчэ робяць, дык аж сорамна нейк хваліцца: гаспадар устае да сонца, скідаець порткі і, схваціўшы касу, бяжыць у гарод, гдзе растуць гуркі, каб пакасіць агурэчнік, але так толькі прыкладам. Робіцца гэта дзеля таго, каб многа вырасла гуркоў.

У цёмных кутках нашай бацькаўшчыны гэта звычайнае зьявішча, каб пацягаць каменьне, ці пакасіць гуркі. Што тычыцца варажбы аб пасевах, дык тут варожаць усялякімі спосабамі і часта-густа гэтая варажба даець селяніну-земляробу многа няпрыемнасьцяў, цягнучы за сабой наракакьне на няўдачную сяўбу, бо дало-ж ліха пасеяць і якраз пад суш.

Дык, сяляне-земляробы! Пакіньма пустую варажбу і забабоны, а вазьмемся за актыўную працу, а за гэта за ўсё Прырода-Маці заплаціць!

*Янка Тарыкоў.*

### Павялічвайма гадоўлю акопных.

Ня блага будзе, калі кожны з нас супыніцца над справай гадоўлі акопных і адпаведна да сваіх патрэбаў пастараецца павялічыць абшар поля пад бульбу ці буракі, нават і тады, калі-б гэта мела быць зроблена коштам паменшаньня зямлі, прызначанай пад ячмень ці авёс.

Мусім прызнаць, што ў вялізнай большасьці вясковых гаспадарак гадоўля акопных дзеля кармленьня быдла толькі ў малюсенькай часьці бярэцца пад увагу. Дык праз гэта, напрыклад, бульбы гадуецца толькі гэтулькі, колькі патрэбна для кухні, а таксама і для быдла, а рэшта бульбы збываецца на рынку ў бліжэйшым ці далейшым месьце, дзеля гэтага, чым далей ад гораду, тым менш гадуецца бульбы.

Што-ж рабіць, каб усё такі выйсьці з дасюлешняга палажэньня?

Трэба аблічыць колькасьць акопных, патрэбную нам на пачатак і вядзеньне рацыянальнага кармленьня быдла і, адносна да патрэбнае колькасьці і сярэдніх ураджаяў, якія ў нас бываюць, аблічыць абшар зямлі, якую мы павінны прызначыць пад буракі або пад бульбу.

---

## Пясьняр хараства і адраджэньня.

*(У 10-я ўгодкі з дня сьмерці Максіма Багдановіча).*

Дзесяць гадоў назад, 25-га траўня 1917 году, (паводле нов. стылю), памёр, лечачыся ад сухотаў у Ялце (Крым), пясьняр беларускага хараства і адраджэньня Максім Багдановіч.

Як поэт, ён займае асобнае месца ў беларускай літэратуры. Месца гэтае было яму проста падрыхтована яго соцыяльным паходжаньнем. Бо перад ім і вакол яго ў нашай літэратуры стаяць імёны пісьменьнітаў шляхоцкага альбо сялянскага паходжаньня.

Беларускаму чытачу з большага вядомы характар крыштальна-поэтычнае творчасьці Багдановіча, яго непараўнальная песьня хараству і песьня-грымот яго аб адраджэньні роднага народу. Сьветлым мэтэорам праляцела жыцьцё пісьменьніка і прыходзіцца толькі пашкадаваць, што яно гэтак рана пагасла. Памёр М. Багдановіч зусім маладым, маючы толькі 25 гадоў веку (нарадзіўся ў 1892 годзе ў Менску). Бацька Багдановічаў быў настаўнікам і вядомым у маскоўскай літэратуры этнографам; паходзіў з Горадзеншчыны.

Дык, як бачым, пясьняр хараства на беларускім Парнасе—сын інтэлігента. Цікава складаўся жыцьцёвы шлях поэта. Калі яму йшоў усяго другі год, як сьведчыць Максім Гарэцкі ў сваёй «Гісторыі Беларускае Літэратуры», дык сям'я Багдановічаў пераехала ў Ніжні-Ноўгарад, дзе яго бацька дастаў пасаду гімназіяльнага настаўніка. Бацькі Багдановічавы гаварылі памаскоўску, але шчыра любілі родны край і любілі ўспамінаць аб жыцьці на Беларусі. Маленечкі Максім слухаў гэтыя ўспаміны і ў сэрца яго западала туга па роднай зямельцы дзядоў сваіх. Пазьней ён піяе ў адным з вершаў:

Вазьмем, напрыклад, гаспадарку ў 13 гэктараў. Зямля— грунт жытня -- бульбяны, дык буракоў і ня садзім. Адна трэцяя часьць гэтае зямлі - гэта сенажаці, $^2/_3$ - зямля ворная, альбо каля 8га (адкінуўшы $^1/_2$ га на сад і падворак). У сярэднім $^2/_3$ будзе засеяна азімінай, $^1/_3$, $2^1/_2$ га застануцца пад акопныя. На гэтых $2^1/_2$ га звычайна садзілі на 1—$1^1/_2$ га бульбу, рэшту займаў авёс, гарох, ячмень і г. д. Бульбы, пры сярэднім ураджаі 240 мэтраў з га мы зьбіралі каля 300 мэтраў. Гэтая колькасьць пасьля, пакрыцьця расходаў на пасадку, хатнія патрэбы, а таксама і кармленьне 6 сьвіней, прынясла-б нам надбаўку 60 — 80 мэтраў, якую мы заўсёды маглі-б прадаць. Каровы бульбы не адтрымлівалі. У вышэйпрыведзенай гаспадарцы маем 6 кароў, апрача ялавічнага набытку. Калі-б мы кожнай карове давалі штодня 12 кілёграмаў бульбы, або $12 \times 6 = 72$ кг., што, памножанае на 200 дзён зімовага кармленьня, дасьць нам 144 мэтры бульбы.

Дык калі мы на будучую зіму хочам запэўніць сабе даход з кароў, павінны засадзіць бульбаю прынамсі на паўгэктара болей, як дасюль.

Пры гадоўлі буракоў, абшар застанецца той самы, бо хаця сярэдні ўраджай кармавых буракоў бывае ў два разы большы за ўраджай бульбы з таго самага абшару, дык усё-ж штодзенная порцыя павінна быць падвоена ў параўнаньні з бульбаю.

Значыцца, калі-б мы, замест $1^1/_2$ га бульбы, засадзілі ў гэтым годзе 2 га, дык нам застаўся-б няцэлы 1 га на гадоўлю гароднін. Ведама-ж, гэта вельмі мала і тут не адзін з гаспадароў палічыць за лепшае пайсьці шляхам сваіх гаспадарскіх прывычак, чымся адразу гэтак моцна павялічыць гадоўлю бульбы, хоць карысьць ад гадоўлі яе—пэўная.

У кожным выпадку мы павінны браць гэтую справу пад увагу, каб у будучыні сеяць менш азімінаў, памятуючы, што пры рацыянальным кармленьні кароў павялічыцца іхняя малочнасьць, значыцца — худое малако дасьць нам магчымасьць трымаць больш сьвіней, якія таксама зьядуць больш бульбы, як цяпер. Значыцца, мы павінны зьвярнуць больш увагі на гадоўлю акопных, а калі нам ня ўдасца зрабіць гэта шляхам павялічэньня абшару пад пасадку іх, дык мусім здабыць большы ўраджай шляхам лепшага гнаеньня і старанлівейшае апрацоўкі.

## Заразная бягунка ў цялят.

Вельмі часта здараецца, што нованароджаныя цяляты хварэюць заразнаю і небясьпечнаю хваробаю, гэтак званаю белаю бягункаю цялят.

Хвароба гэтая блізка што заўсёды канчаецца сьмерцю, дзеля гэтага тут патрэбна ўжываньне забясьпечальных спосабаў; яна вельмі заразьлівая і звычайна зьяўляецца на другі або на трэці дзень па нараджэньні цяляці.

Праявы белае бягункі гэткія: цялё адразу пакідае ссаць, робіцца сумным і слабым; пасьля некалькіх гадзін находзіць ганячка, выдзяленьні моцна сьмярдзяць і маюць выразна белы колер; цяля шыбка худзее і праз некалькі дзён здыхае.

Каб асьцерагчы цяляты ад хваробы, трэба за тыдзень перад цяленьнем загадаць трымацца чыстаты ў хляве, а асабліва ў месцы, дзе стаяць цельныя каровы, таму што хваробу выклікае свайго роду бактэрыя. Мікроб гэты, знаходзячыся заўсёды ў тоўстых кішках дарослага быдла, дастаецца да цела цяляці падчас цяленьня, альбо і праз вымя пры ссаньні; мікроб можа ўвайсьці ў арганізм цяляці таксама і праз пупавіну, дзеля гэтага вось хвост і зад цельнае каровы загадзя трэба штодня абмываць 3% рошчынай крэоліны, бяручы адну лыжачку крэоліны на шклянку пераваранай вады; гэткае-ж самае абмываньне павінна быць роблена і ў працягу цэлага тыдня пасьля ацяленьня. Затым, перад пачаткам родаў, трэба нарыхтаваць вялікую посьцілку, якую вымачыць у гэткай самай рошчыне крэоліны і, пры цяленьні каровы, прымаць цялё на гэткую посьцілку, распасьцёртую на чыстай саломе. Зараз-жа па нараджэньні цяляці пупавіну яго перавязаць цясёмкаю, альбо моцным шнурочкам у адлежнасьці 5 цм. ад жывата і адрэзаць ножніцамі; як ножніцы, так і шнурок або цясёмка, якою перавязваецца пупавіна, павінны быць раней вымачаныя 6—10 мінут у рошчыне крэоліны альбо лізолю. Пасьля абрэзаньня, пупавіну трэба памазаць ёдам і добра вышмараваць разам з часткаю жывата чыстым аптэчным дзёгцем (pix liguida), паўтараць гэта штодня ў працягу 3—4-х дзён.

---

„У родным краі ёсьць крыніца
Жывой вады —
Там толькі я магу пазбыцца
Свае нуды“ ...

Матчынай моваю адарванага ад роднай зямлі поэта была мова маскоўская. І гэта было вялікай перашкодаю ў яго беларускай творчасьці ў сэнсе чыстаты мовы нашай, якую поэт мог ведаць толькі тэорэтычна—з кніжак. У яго апублікованых вершах, па віне яго адарванасьці ад жывой мовы свайго народу, балячкамі іншы раз б‘юць у вочы шчырыя маскалізмы, ўжываныя поэтам напэўна зусім несьвядома. Звароты і націскі на словах вельмі часта зусім маскоўскія ў вершах Багдановіча. Вазьмем хоць-бы гэткі кавалачак з яго „Эпістолы“ пра Сальеры:

Уменьне да ігры Сальеры здабываў
Праз мерны труд; ці спраўды забіваў
Ён гэтым талент свой, як бачна з думак драмы? *)

*) Справа йдзе аб драме А. Пушкіна „Моцарт і Сальеры“.

Адкажа йскрынка вам. Стакато, фугі, гамы
Штогод каліс на ёй Сальеры в ы в а д з і ў
І моцна йграньнем тым іскрынкі зык зьмяніў.
Ящчэ яна г у д з і ц ь. Пявучых гукаў сіла
Праз доўгія гады яе перарабіла,
І, тымі сьпевамі уся н а п а е н а,
Навекі чулаю зрабілася яна ...

Дзіўная мілагучнасьць, як у самой чароўнай скрыпцы, ў гэтым вершы. Але-ж якім струпам у беларускай мове зьяўляецца маскалізм „н а п а е н *а*“, ўжыты ў перадапошнім радку для рыфмы!

Але не Багдановіча віна ў гэтым... Віна — ў тым, што закінуты ён лёсам у чужы для яго Ніжні-Ноўгарад, пасьля ў Яраслаўль, віна ў тым хавалася, што ня надта дзе было і друкавацца яму ў часы нашае поўнае нацыянальнае летаргіі й няволі. Ня было каму й аценіць яго поэтыцкі талент, як гэта бачым цяпер з успамінаў аб Багдановічу В. Ластоўскага (месячнік „Крывіч“, студзень - чэрвень 1926 г. Коўна). Успаміны гэтыя паднімаюць заслону над адзінаю ў

Зрабіўшы акуратна ніжэйапісанае, бязумоўна забясьпечым цялё ад магчымасьці заражэньня гэтаю хваробаю.

Затым, першую порцыю малодзіва каровы здойваем у якую-нібудзь судзіну, бо яно можа мець у сабе мікробы, і толькі пасьля ўжо пушчаем цялё ссаць; малодзіва для яго ёсьць неабходным, але гэткая асьцярожнасьць зьяўляецца вельмі патрэбнаю і мэтазгоднаю.

У тых выпадках, калі, па прычыне браку перасьцерагальных мераў, нованароджанае цялё будзе наведана заразаю і ўжо выступяць праявы белае бягункі — трэба яго выдаліць з хлява, дзе стаяць цельныя каровы, альбо маладыя цяляты, даць у нутро 2—3 лыжкі рыцыны, а пасьля паіць клеікам з ячменных або аўсяных круп, аднакжа лячэньне рэдка калі дае добрыя рэзультаты.

Проці гэтае хваробы ўжываецца спэцыяльная сыраватка, якая з вельмі добрым рэзультатам можа, быць упырсквана вэтэрынарным лекарам, як перасьцерагальны і лячэбны спосаб.

А калі ў даным хляве штогоду гэтая хвароба паўтараецца, дык безварункова неабходна ўжываньне сыраваткі.

Незалежна ад гэтага, ў хляве трэба, пасьля кожнага выпадку, зрабіць якнайшырэйшую дэзынфэкцыю і пабел, а асабліва стойла, ў якім было хворае цялё.

# Гаспадарчыя парады.

## Як зьніштожыць на сенажацях сьметнякі і іншыя дзікія травы.

Каб зьніштожыць на сенажацях сьметнякі і іншыя некарысныя для гаспадара травы, трэба, апрача веснавога і асеньняга баранаваньня, скасіць сенажаць да таго часу, пакуль некарысныя травы ня выдадуць сьпелага насеньня. У праціўным выпадку, яно зноў пасеецца на сенажаці і запаскудзіць яе. Калі гэта рабіць пад рад гадоў 3—4, дык гэтыя травы паступова вынішчаюцца. Адначасна пры баранаваньні можна падсеяць мяшанкі культурных траваў.

## Шкоднасьць раньняга выгану быдла на сенажаць вясною.

Сяляне выганяюць быдла на сенажаць раньняю вясною, бо ня ведаюць добра, як гэта шкодзіць сенажаці. (Дрэнна, што сяляне выганяюць быдла зарана, але што-ж маюць рабіць, калі ў гумне няма ані сьцяблінкі сена). Быдла топча сенажаць, а ямкі ад таптаньня не зарастаюць травою, дзеля чаго ўраджай ня можа быць поўны. Тымчасам некарыснае для нас травы быдла ня нішчыць і яна расьце свабодна ды прыглушае культурныя травы.

Усюды, дзе хочуць мець з сенажаці поўны ўраджай, радзіцца не выганяць быдла на пашу ані позьняю восеньню, ані раньняю вясною.

## Як змагацца з марозам, калі сад цьвіце.

Трэба параскідаць у воддалі 20—30 саж. адна ад адной кучы сухога гною. Калі ўвечары абніжаецца цяплыня паветра, а неба яснае, дык трэба чакаць прымаразку. Калі ў 2 гадз. ўночы абніжэньне тэмпэратуры дойдзе да 1 градусу, тагды трэба запальваць кучы гною, абліўшы іх перад гэтым газаю. Трэба пільнаваць, каб гной не гарэў, а тлеў, выдаючы якнайбольш дыму. Да ўсходу сонца сад будзе пад заслонаю дыму, які выратуе яго ад марозу.

Ясна, што гэткі спосаб змаганьня каштуе працы і грошаў, аднак аплачваецца нават для ратунку аднаго - двух добра расьцьвіўшых дзеравін. Бо што-ж значыць ахвяраваць адну - дзьве кучы гною, каб пасьля летам сабраць некалькі асьмін яблык, альбо грушаў.

Садоўнікі! спрабуйце гэткім спосабам ратаваць цьвет ад замарожаньня.

## Кароста на авечках.

Дзякуючы сваёй пошаснай здольнасьці, кароста лёгка вельмі распаўсюджваецца як на людзях, так і на быдле, а значыць і на авечках. Прыкмеціць гэту хваробу на авечках можна па тым, што яны робіцца неспакойнымі, кладуцца, чухаюцца, часта вырываючы з сябе воўну, якая з прычыны гэтае хваробы зьбіваецца, робіцца рудою і дужа лёгка вылазіць.

Калі будзе заўважана гэткае зьявішча, дык зараз-жа трэба такую авечку ізоляваць (адлучыць) ад рэшты авечак і ўзяцца лячыць яе.

Разумеецца, лячыць гэту пошасьць трэба тады, калі

---

1909 г. рэдакцыяй „Нашае Нівы", куды ў пачатку гэтага-ж году М. Багдановіч прыслаў некалькі сваіх вершаў. Але тут ужо слова за Ластоўскім:

... Склад рэдакцыі „Наша Ніва", — расказвае Ластоўскі, — ў 1909 годзе быў гэткі: А. Уласаў, браты Іван і Антон Луцкевічы, Ядвігін Ш. (Лявіцкі),Янка Купала, В. Ластоўскі і дарыўкамі—Язэп Манькоўскі (Янка Окліч) ды Чыж (Альгерд Бульба), а напачатку лета 1909 г. прыбыў яшчэ С. Палуян.

Гэты склад рэдакцыі ў 1909 і 1910 г. г. рэзка распадаўся на дзьве групы, каторыя былі дамэтна ахарактарызованы сьвежа прыехаўшым з Кіева С. Палуянам „верхняй" і „ніжняй" палатамі. Да „верхняй" палаты належалі: А. Уласаў, браты Луцкевічы і, калі бывалі, Чыж і Манькоўскі. „Ніжняя" палата складалася з Ядвігіна Ш., Купалы, Ластоўскага і Палуяна, а ў канцы 1909 г. да яе далучыўся мастак-маляр Я. Драздовіч. Рэдакцыя ў цэлым ніколі ня сходзілася. На Віленскай № 20, дзе памяшчалася рэдакцыя, магазын ад вуліцы займала „ніжняя" палата, сьвятліцу ад падворку мела ў сваім выключным панаваньні „верхняя" палата. Паміж сабою працаўнікі гэтых дзьвёх „палат" рэдка сутракаліся; ў тэхнічных справах рэдакцыі зносіліся праз замкнутыя на ключ дзьверы па шчэлцы над парогам. Праз гэту шчэлку перасылаліся туды і назад рэдакцыйныя матар'ялы і корэспондэнцыя.

За зачыненымі і завешанымі цяжкай драпэрыяй дзьвярыма ў гасподзе „верхняй" палаты вяршыліся „высокія" палітычныя матэрыі. Адгалоскі шырокіх плянаў „верхняй" палаты даходзілі ў „ніжнюю" з трэціх і пятых рук, часта ў хаотычнай форме. Адно толькі было поўным, што там ішла буйная ігра са значнымі стаўкамі з боку уніяцкай герархіі і некаторых другіх, сільных у тыя часы краёвых чыньнікаў. Ад вуліцы-ж у „ніжнюю" палату ішла публіка „чорная" і „шэрая". Ясна, што пры такім падзеле „верхняя" і „ніжняя" палаты думалі парознаму, жылі рознымі ідэаламі, насілі ў сабе зародкі розных кірункаў нацыянальнай мысьлі.

На пачатку 1909 г. Максім Багдановіч прыслаў некалькі лісьцікаў сваіх вершаў, падпісаных поўным уласным прозвішчам і імем. Вершы для кожнага нумару „Нашай Нівы" падбіраў Янка Купала, бо акром Я. Коласа, Купалы і яшчэ 2—3 поэтаў, 99 % вершаў, надасланых у рэдакцыю, былі з дэфэктамі. Павіннасьцю Я. Купалы было папраўляць іх перад здачай у друк. Друкавалі-ж адзін-два вершы кожнага новага „поэта", каб заахвоціць яго да пісаньня. Былі ці ня былі зроблены якія папраўкі ў вершах

яна зьявіцца ў аднэй - дзьвёх авечак, бо, запусьціўшы гэту хваробу, змагацца з ёю вельмі цяжка.

Хвароба гэта ў авечкі, як і ў чалавека, выклікаецца раздражненьнем скуры, якое робяць каростывыя бактэрыі, каторыя хутка распладжваюцца на целе, робячы пад скураю раўчакі. Бактэрыі, распаўзаючыся па целе авечкі, выклікаюць у яе вялікую сьвярбячку, ад якое авечка не знаходзіць сабе супакою.

Ад гэтае сьвярбячкі авечка часта разьдзірае сабе скуру да крыві. Калі ўзяць павялічальнае шкло, дык можна ўбачыць у такой ране вельмі шмат каростывых мікробаў.

Найлепшым лекам ад яе будзе навар з лісьцяў звычайнае свойскае табакі, якое трэба на вядро вады $1^1/_2$ фунта сырое, альбо 1 ф. сухое; гэткім наварам і трэба купаць авечкі, хворыя на каросту.

Каб гэты навар пасьля мыцьця даўжэй затрымаўся на скуры авечкі, яе ня трэба стрыгчы. Трэба ведаць, што навар гэты зьнішчае толькі тыя бактэрыі, якія ўжо разьядаюць скуру, але не забівае ад аднаго разу зародкаў, з якіх вырастаюць бактэрыі толькі на 7 дзень.

Дзеля гэтага аднаразовае купаньне авечкі не паможа. Мыць яе табачным наварам трэба некалькі разоў праз кожных 7—8 дзён, каб зьнішчыць новыя бактэрыі.

## Як пячы жытні хлеб.

Не ў аднэй з маладых гаспадыняў, а пераважна гарадзкіх, часта не ўдаецца хлеб. Адна скардзіцца на тое, што ня мае гадзіньніка, а другая кажа, што проста ня ведае пары, а ўсё хлеб то перапечаны, то недапечаны. Адна з такіх гаспадыняк знайшла спосаб, як можна абыйсьціся без гадзіньніка.

Ня ведаем, ці гэты спосаб заўсёды справядлівы, ці не, але, падаючы яго тут, такі даем маладым гаспадынькам самым пераканацца аб гэтым.

Вось-жа, калі хлеб садзіцца ў печ, дык трэба з таго-ж цеста зрабіць маленькую галку, трошкі большую за валоскі гарэх, і ўкінуць яе ў шклянку з сырою вадою.

Галка патонець — і, пакуль яна будзе ляжаць на дне, да таго часу хлеб павінен сядзець у печы, а калі галка ўсплыве наверх, дык значыцца—хлеб гатовы.

(„Наше Життя"). І. ЛЮШУК.

## Як прызвычайваць ялавіцу да даеньня.

Каб прызвычаіць ялавіцу да даеньня, трэба яшчэ за пару тыдняў да ацяленьня масаваць (націраць) вымя і цыцкі, яна праз гэта прывыкаець да даеньня і пасьля ацяленьня ня будзе супраціўляцца даеньню. Прычынаю дражлівасьці і неспакою можа быць такжа і параненьне вымя або цыцкі, што трэба прадбачваць і аглядзець іх. Калі-ж усё здаровае, а паміма таго дражлівасьць і спраціў ня сьціхае, дык трэба перад даеньнем палажыць на крыж карове зложаны ўчацьвера мяшок, намочаны раней у халоднай вадзе і лёгка выкручаны.

Падаў *П*.

## Кармавая морква.

У вадносінах да клімату і глебы морква ня вельмі пераборлівая; дзеля гэтага ў нашых беларускіх умовах яе пасеў можа даваць добрыя вынікі. Яна мірыцца з пясковымі і супясковымі глебамі, калі яны маюць выстарчаючую глыбіню, зразумела пры ўгнойваньні глебы; але ва ўсякім разе, дзякуючы далікатнасьці сваіх усходаў, морква вымагае пухкіх глеб і не ўдаецца на глебах цяжкіх, гліністых. Калі ў глебе ёсьць вапна, дык гэта добрыя ўмовы ўзрошчваньня кармавой морквы нават і на шчыльных глебах. Кармавая морква бязумоўна вымагае пільнай, старannай, глыбокай апрацоўкі і чыстасьці глебы ад зельля і іншых караньплодаў. Сярэдні ўраджай морквы з аднае дзесяціны пры правільным узрошчваньні можна лічыць каля 2.000 пудоў. Захоўваецца яна горш, чымся іншыя караньплоды.

Бацьвіньне морквы ёсьць добры корм для скаціны і даецца сырым.

## Вязі на поле больш гною, хлеба не папросіш вясною.

Угнаеньне глебы. Гной. Для ўгнаеньня глебы сяляне часьцей за ўсё карыстаюцца гноем. Зразумела, гной — лепшае ўгнаеньне для ўсіх расьлін, але, каб адтрымаць больш ураджаю, трэба карыстацца і штучнымі ўгнаеньнямі — парашкамі.

Якасьць гною залежыць: 1) ад падсьцілу. Чым лепш падсціл убірае мачу і гнойную жыжку, тым лепшы адтрымоўваецца гной. 2) Ад корму, якім харчуецца жывёла — калі карміць жывёлу сенам,

---

„Над магілай" і „Прыдзе вясна", я не памятаю, можа памятае сам Я. Купала, але гэта былі адны з першых вершаў, і надрукованыя пад праўдзівым прозьвішчам і імем аўтора.

На пачатку траўня месяца таго-ж году, Максім Багдановіч ізноў прыслаў у „Нашу Ніву" маленькі сшыточак новых сваіх твораў, які абыймаў 8—9 вершаў, Нябожчык Ядвігін ахрысьціў гэты сшыточак „дэкадэншчынай". Яго апінія падзялялася „вярхоўнай палатай". Іншага пагляду трымалася аб новым пісьменьніку „ніжняя" палата, а ў першы чарод Я. Купала, які інтуітыўна вычуў у гэтых першых паэтыцкіх спробах у Максіме Багдановічы запраўднага мастака. Спамянуты сшыток вярнуўся з перагляду „верхняй палаты" ў „ніжнюю" перакрэсьлены сінім алаўком з надпісам рукой А. .ласава «В архів». Пад перакладам з Н. Сьвятагора „Дзьве песьні" быў надпіс рукой А. Луцкевіча „Можо надруковаць пад псэўдонімам": палітыка „верхняй палаты" строга прытрымлівалася лініі нераскрываньня сваіх супрацоўнікаў, каб манаполь прадстаўніцтва руху быў выключна ў яе руках.

„Дзьве песьні" пайшлі ў друк з папраўкамі ў мове Я. Купалы, але з іншым подпісам: у карэктуры Ядвігін падпісаў верш, прыдуманым ім для Максіма Багдановіча, псэўдонімам „Максым Крыніца".

Праз некалькі тыдняў пасьля надрукаваньня вершу „Дзьве песьні" Максім Багдановіч прыслаў яшчэ некалькі новых вершаў і ліст, у якім протэставаў, што яго перарабілі ў „Максіма Крыніцу". Але вершы былі ізноў «дэкадэнскія» і дзеля гэтага трапілі ў тую-ж папку, дзе быў папярэдні сшыток з надпісам „В архів". Там яны пралежалі да канца жніўня, калі іх выцягнуў на сьвет С. Палуян, які, прачытаўшы вершы, з над'звычайным захопленьнем стаў бараніць іх сьпярша перад Ядвігіным, а пасьля перад „верхняй палатай", з радоў якой за надрукаваньне некаторых вершаў першы высказаўся Чыж, а пазьней А. Луцкевіч"...

Гэтак сьведчыць В. Ластоўскі аб адзіным тады прытулішчы для беларускіх песьняроў, аб „двухпалатнай" рэдакцыі „Нашае Нівы", дзе ў верхнім ярусе ня было а ніводнага літэратара. Сюды, ў гэткую рэдакцыю трапілі творы нашага Песьняра харaства і, як бачым, каб ня „ніжняя", зложаная з адных пісьменьнікаў, палата рэдакцыі, дык творы гэтыя можа й дасюль спакойна адпачывалі-б у „архіве".

Нелагодны быў жыцьцёвы шлях нашага песьняра і толькі па сьмерці „імя яго стала шчасьлі-

травою і моцным кормам, дык гной адтрымоўваецца лепшы, чымся ад жывёлы, якая харчуецца толькі сенам, або травою. 3) Розныя жывёлы даюць розны гной: коні даюць гной, які хутка прэе, таму гэты гной ляпей дзейнічае на шчыльных, халодных, глiністых глебах. Гной рагатае жывёлы больш вільготны, прэе паволі і дзейнічае лепей на лёгкіх глебах. 4) Якасьці гною залежаць і ад спосабу захаваньня гною: калі пакінуць гной без дагляду, дык ён можа згубіць палавіну сваіх каштоўных якасьцяў.

Колькі адтрымоўваецца гною ў гаспадарцы. У сярэднім за год адтрымоўваепца такая колькасьць гною: ад каня — 550 пудоў, ад быка — 400 пуд., (калі бык круглы год стаіць у стойле, дык 800 пуд.), ад каровы — 350 пуд., ад аднэй жывёлы — 250 пуд., ад авечкі — 35 пуд., ад сьвіньні — 75 пуд., (ад кормнае сьвіньні — 100 пуд.). З 100 пуд. сьвежага гною адтрымоўваецца: напалавіну перапрэўшага — 80 пуд., перапрэўшага—40 пуд. і перагною — 30 пуд.

## Першая дапамога ў нашчасных выпадках.

Чад. Учадзеўшага трэба вынясьці на сьвежае паветра, расшпіліць каўнер, палажыць на галаву сьнег, лёд (улетку—рушнік, намочаны ў сьцюдзёнай вадзе), даваць нюхаць нашатырны спірт, націраць гэтым спіртам лоб і за вушамі; сьпіну, падэшвы і далоні расьціраць шчоткай ці суконкай.

Адмарожаньне. Адмарожаныя часткі цела трэба моцна цёрці сьнегам, ня ўводзячы ў хату (ляпей у халодных сенцах). Пасьля гэтыя часткі цела шмаруюць якой-небудзь клустасьцю: сьвіным ці гусіным салам або кароўім маслам. Калі на скуры зрабіліся пузыры, то пасьля ашмароўкі салам, абвярнуць чыстай просьцінай. Абмарожаныя часткі цела праз усю зіму трэба добра хаваць ад сьцюжы.

Зьмяіны ўкус. Не чакаючы ні хвіліны, туга перацягнуць нагу (ці руку) вышэй пакусанага месца паясом ці вяроўкаю на $1/2$ гадзіны. Ранку, зробленую зьмяіным зубам, зараз-жа прыпаліць запаленай цыгаркай ці сернічкам.

Калі пакусанае месца робіцца чырвоным, прыпухае, зьявіцца ванітаваньне і слабасьць — хутчэй пасьлаць па доктара.

Укус шалёнай сабакі можна вылячыць толькі спэцыяльнымі прышчэпкамі, якія робяцца ў вялікіх гарадох. Пасьля ўкусу, не чакаючы ані дня, пакусанага трэба вясьці на прышчэпкі. Чым раней іх пачаць, тым болей надзеі на папраўку.

Атручаньне гарэлкай (самагонам). Расшпіліць каўнер і грудзі, вынесьці на сьвежае паветра; класьці на галаву рушнік, змочаны ў халоднай вадзе, а ногі ды рукі саграваць і церці.

## Як прыгатаваць кампост.

Кампосту можна загатаваць у кожнай гаспадарцы, колькі хочаш. Трэба ў баку ад хаты, але й недалёка ад яе, зрабіць паветку над плошчай сажняў два ўшыркі, а ўдоўжкі—гледзячы на тое, колькі хочуць мець кампосту. На такой плошчы зьнімаецца пласт дзірвану на вяршкі 3 і кладзецца дзе-нібудзь каля рассаднікаў: з дзірвану адтрымаецца самая лепшая зямля для рассадніку. На яго месца насыпаюць такі самы пласт сухога торфу, або якой-небудзь іншай зямлі. Але лепей якраз торфу. На гэтай зямлі ссыпаюць усё непатрэбнае, выліваюць усе памыі, складаюць бацьвіньне, выкошваюць быльлё, кладуць пілавіны, дробныя трэскі, попел, сажу, чалавечы кал. Адным словам — усё, што на вёсках выкідаюць куды папала і што заражае паветра. Як толькі пласт гэты падымецца да вяршкоў 6, а насыпаная зямля ўся набярэцца памыяў і калу, дык трэба насыпаць яшчэ пласт сухой зямлі вяршкоў на 4-6 і зноў пачаць навальваць непатрэбныя рэчы і выліваць памыі. Так робяць, пакуль гэтая куча не дасягне 2 аршын. Верхні пласт павінен быць з зямлі. Цераз

---

вейшым за яго"... Толькі ў 1912 годзе ён ў чэрвені месяцы прыбыў на пару дзён у Вільню з Маскоўшчыны, затым каля месяца прабыў у беларускай вёсцы, дзе напісаў цыкль вершаў „Старая Беларусь". Вяртаючыся ў Маскоўшчыну, Багдановіч быў у Вільні толькі праездам. У 1913 г. выдрукаваны яго першы зборнік „Вянок" (Вянок на магілу С. А. Палуяна), скончыўшага жыцьцё самагубствам 8-га красавіка 1910 г. Поэт жаліўся, што зборнік гэты быў выпушчаны з вялікім карэктарскім недаглядам, даўшым вельмі шмат прыкрых памылак. Нажаль — гэта так. Але й гэтае выданьне ўжо зусім вычарпана і „Вянок" — кніжка цяпер рэдкая.

Бацька поэта, Аляксандар Багдановіч, яшчэ жыве, прабываючы ў Савецкай Беларусі, дзе, як даведваемся з менскіх газэт за 7/V.1927 г., рыхтавалася ўрачыстае сьвяткаваньне 10-х угодкаў сьмерці поэта. Сьмерць гэтая не дала Багдановічу магчымасьці дыхаць паветрам роднае краіны, ўзбагаціць свой беларускі лексыкон жывою крыніцаю родных словаў, — бо прыехаўшы другі раз на Бацькаўшчыну ў 1916 годзе ў Менск, ён мусіў пакінуць яе, нажаль назаўсёды, каб аж у Крыме ратавацца ад, перадчасна загнаўшых яго ў дамавіну, сухотаў. Там, ў Ялце, пайшоў сьвечкаю да неба наш вялікі песьняр хараства і адраджэньня.

Але агонь гэнае сьвечкі не пагасьне ніколі ў народнай памяці. Рознародныя мэлёды Багдановічавай цудоўнай ліры ня ўсе яшчэ пабачылі сьвет. І прыходзіцца толькі пашкадаваць, што ня маем дасюль поўнага выданьня яго твораў.

*К. М.*

год кампост перагніе і ім можна карыстацца для ўгнаеньня. Яго можна прызапасіць колькі хочаш. І апрача таго, кампост робіць сядзібу чыстай, а гэта патрэбна для здароўя сялянскай сям'і.

## Пра гадоўлю гуркоў.

Гуркі, як ведама, зьяўляюцца гароднінай дужа карыснай. Гаспадару гуркі ня толькі даюць добрую спажыву, але і карысьць. Тым больш, што гуркі пасьпяваюць у той час, калі гаспадар ня мае чаго прадаць, бо збожжа яшчэ ня вырасла. На нашых землях гуркі растуць добра, але вымагаюць стараннага догляду.

Я хачу апісаць, як невялікі кусок зямлі, бо 11 квадратных сажняў, даў даходу 52 зл. 30 гр. Кусок зямлі, даволі добра ўгноенае прошлага лета, я засадзіў гуркамі. Перад гэтым, я яшчэ расьсеяў на гэтым куску, неякіх 8 пудоў авечага гною. Гуркі пасеяў 22 траўня. Насеньне садзіў нярошчанае і нямочанае радамі ў $1\frac{1}{2}$ ар., штука ад штукі на 5 цаляў. Над радамі зрабіў раўкі дзеля ўтрыманьня вады, якую трэба паліваць. Зярняты ў зямлі былі ня глыбей, як $\frac{1}{2}$—1 цаля.

Зямля ў раўках была сырая да ўсходаў сонца, бо часта, ў разе патрэбы, паліваў вадой перад заходам сонца.

Як толькі ўзышлі гуркі, дык аказалася, што былі яны загуста пасаджаны. Тады я слабейшыя ўсходы павырываў, рэшту пачакаўшы абабіў зямлёю. Падчас красаваньня гуркоў ня было дажджоў, трэба было некалькі разоў паліць гуркі; рабіць гэта трэба толькі вечарамі, альбо раніцаю.

Каля 15 ліпня ў мяне было ўжо шмат гуркоў. Першы збор я завёз у мястэчка і прадаў за 14 зл.

Да восені я прадаў 39 коп, за якія і адтрымаў 52 зл. і 32 гр. А ня лічу колькі гуркоў пайшло на хатні ўжытак. У нас гуркі могуць даць вялікі даход, бо ёсьць на іх попыт, але трэба стараньня ў дагляданьні, бо і нам яны не дадуць пажаданых пладоў.

*Зыдар Зарак.*

## Што рабіць з хрушчамі?

Кожны хіба ведае, як шкодныя хрушчы. Іх канечна трэба зьніштажаць, але можна гэта так зрабіць, каб мець з іх карысьць. Да гэтае работы трэба ўзяцца зараз-жа, каб ня даць магчымасьці саміцам зьнясьці яечак на маладое пакаленьне, якое выходзіць аж праз 4 гады.

Зьнішчэньнем хрушчоў павінны заняцца дзеці гэткім спосабам: да сьвету трэба страсаць хрушчы на разасланае радно, ўсыпаць у кошык і заліць кіпнем (гарачаю вадою), ад якога яны гінуць.

Няжывых хрушчоў трэба высушыць на сонцы, а пасьля высушаных перахоўваць у сухім месцы на зіму... курам. Перад кармленьнем курэй, трэба хрушчы пацёрці на муку і дамешваць да мяшанкі. Карысна хрушчамі карміць сьвіньні, ад якіх яны вельмі сыцеюць. Не даваць сьвежых хрушчоў зашмат курам, бо яны дастануць ляксу (ганячку) і будуць мець чырвоныя плямы на яечках.

## Паведамленьне Віленскага Школьнага Кураторыюму аб Троцкай сэмінарыі.

Куратарыюм Віленскага Школьнага Вокругу просіць нас падаць да агульнага ведама гэткае яго паведамленьне:

„Прымаючы пад увагу ступянёвае перарабленьне жаноцкае настаўніцкае сэмінарыі ў Троках на мужчынскую, ў бягучым школьным годзе будуць прымацца на ўступны курс хлапцы ад 13 да 16 гадоў.

Устуныя экзамены адбудуцца 30 чэрвеня і 1 ліпня 1927 году. Прашэньні трэба скіроўваць у Дырэкцыю Дзяржаўнае Сэмінарыі ў Троках".

## Вытворчасьць сел.-гасп. машын і прылад і патрэбныя для іх работы сілы.

Плугі. Адналямешны плуг для воркі на глыбіню 9 сант. патрабуе 1—2 коняй, на глыбіню да 13 сант. 2 коняй, на глыбіню 18—20 сант. 3—4 коняй, на сярэдняй землі, якая даўно арэцца і пры сярэдняй якасьці коняй, (якія вязуць па добрай палявой дарозе груз у 410 клгр. — 25 пуд.) Прыблізна можна лічыць інакш: на кожныя 24—33 клгр. ($1\frac{1}{2}$—2 пуды) вагі плуга трэба запрагаць аднаго каня.

Вытворчасьць плугоў пры загоннай ворцы можна лічыць гэткай: для аднаконнага плуга, пры шырыні баразны ў 18—22 сант. (4—5 вяршк.) на сярэдніх глебах, $\frac{1}{2}$—$\frac{2}{3}$ дзесяц. ў дзень. Для параконнага плуга, пры шырыні баразны ў 27—31 сант. (6—7 вярш.), на глебах цяжкіх да $\frac{1}{2}$ дзес., на глебах сярэдніх да $\frac{2}{3}$ дзесяц. ў дзень. Для 4—6—8 коннага плуга, пры шырыні захопу ў 27—40 сант. (6—9 вяршк.), на цяжкіх глебах $\frac{1}{2}$—$\frac{2}{3}$ дзесяц., а на сярэдніх — $\frac{2}{3}$—1 дз. Для двухлямешнага плуга, на 2—3 конях пры глыбіні воркі ў 13—15 сант. (3—$3\frac{1}{2}$ вяршк.) і шырыні захопу ў 49—50 сант. (11 вяршк.), на цяжкіх глебах 1—$1\frac{1}{4}$ дзесяц., на сярэдніх $\frac{1}{4}$—$1\frac{2}{3}$ дзесяц. Для трохлямешных плугоў, на 3—6 конях пры глыбіні воркі ў 18 сант. (4 вяршк.) і шырыні захопу ў 67 сант. (14 вяршк.) на цяжкіх глебах $1\frac{1}{2}$—$1\frac{2}{3}$, а на сярэдніх $1\frac{2}{3}$—2 дзесяц. ў дзень.

## Адказы на пытаньні.

I.

### Груда ў кабылы.

Пытаньне: У кабылы на задніх нагах зьявіліся струпы; ногі моцна спухлі. Кажуць, што гэта груда. Як гэта лячыць?

Адказ: Груда няраз бывае надта ўпартаю пры лячэньні, асабліва калі яна застарэлая і запушчаная, дык дзеля гэтага, не марудзячы, трэба зараз-жа пачаць лячэньне, якое рабіць гэткім спосабам:

Перш за ўсё коратка выстрыгчы шэрсьць на струпох, пасьля спухшыя ногі добра вымыць летняю вадою з дзягцярным мылам, абсушыць сухімі, чыстымі сьцірачкамі, пасьля зрабіць вільготнымі бэнзынай пры помачы ваты і, пасьля гэткага падрыхтаваньня пачаць штодня ўціраць ува ўсе хворыя і патрэсканыя месцы цынкавую масьць, добра зьмешаную ў роўнай часьці з рыцынаю,

а таксама з дадаткам вельмі невялікае колькасьці ёду.

Гэткае шмараваньне павінна быць роблена вельмі дакладна ў працягу 10 мінут два разы ў дзень сухімі, чыстымі пальцамі; рабіць гэтак 8-10 дзён, пры гэтым помніць, каб ног нічым ня мыць і зусім не завязваць, бо гэта шкадліва.

Каня трымаць на цьвёрдай, роўнай, чыстай падлозе ўвесь час лячэньня і ня выводзіць на дажджы й балота аж пакуль зусім ня выздаравее.

Перад кожным новым шмараваньнем ног, у выпадку іх забруджаньня, замест мыцьця, трэба іх толькі выцерці чыстаю белаю ганучкаю альбо ватаю.

Калі, пасьля некаторага часу, як груда прайдзе, застануцца яшчэ невялічкія струпкі і каня пачнеце ўжываць да працы, дык струпкі гэтыя яшчэ нейкі час штодня трэба шмараваць чыстаю вазэлінаю.

II.

Пытаньне: Маю дзьве жаробныя кабылы, якія вельмі неспакойны, ўвесь час тупаюць нагамі, махаюць хвастом і выцягваюць лоб. Прашу рады.

Адказ: Калі кабылы першы раз жаробныя і нэрвовае будовы, дык вельмі магчыма, што стоячы без работы няраз выказваюць пэўную неспакойнасьць. У гэткім выпадку трэба заўсёды помніць, каб яны штодня мелі некаторы рух, лягчэйшую працу і даволі корму.

Апрача таго радзім добранька аглядзець заднія ногі з унутранага боку, а таксама й пахвіны, ці няма там часам запаленьня скуры альбо шчылін, таму што можа тут быць таксама і скурная хвароба (кароста, паршы), ад якой коні тупаюць нагамі. Калі-б заўважаны былі нейкія азнакі, тады трэба гэтыя месцы з вечара добра намыліць шэрым мылам (sapo viridis) і пену пакінуць на ўсю ноч, а раніцай добра спаласкаць і выцерці насуха; падсьціл часта зьмяняць.

III.

Крывавая мача і кашаль у каровы.

Пытаньне: Я купіў на рынку карову, каторая мае крывістую мачу і ад часу да часу кашляе. Што гэта за хвароба і як яе лячыць.

Адказ: Кашаль у каровы ня можа мець нічога супольнага з крываваю мачою. Калі карова схудзелая, дык трэба падазраваць, што яна з сухотамі. Ня ўжываць яе малака сырым, а толькі пераваранам і пры першай аказіі прасіць вэтэрынарнага лекара, каб зравідаваў карову.

Каб ухіліць крывавую мачу, трэба накрыць крыж цёплаю суконнаю посьцілкаю і даваць піць астуджаны адвар ляннага семя.

IV.

Канянка ў канюшыне.

Пытаньне: Як вынішчыць у канюшыне канянку?

Адказ: Найпрасьцейшы спосаб вынішчэньня канянкі гэтакі:

Выразаць канюшыну з канянкаю і каля мэтра навакол гэнага месца ўхіліць выразаныя расьліны з поля і зьнішчыць. Тыя месцы, з якіх гэткім спосабам выдалена канюшына з канянкаю, пасыпаць даволі буйнаю сечкаю вышынёю да 25 сантымэтраў, абліць газаю і падпаліць. Пасьля гэтага кавалак зямлі перакапаць.

Трэба купляць канюшыннае насеньне з гарантыяй, што ў ім няма гэтага самага апівоша (паразыта). Мяшкі з гэткім насеньнем плёмбуюцца Станцыяй Ацэнкі Насеньня. Падробней аб гэтым мы пісалі ўжо ў „Белар. Дні“.

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### Аб мяшаным кармленьні і дакармляньні.

Здаровае дзіця ў працягу першых 5-х месяцаў жыцьця павінна быць кормлена толькі грудзьмі. Гэта корм для яго—безварункова найлепшы і ніякі парашок, хай сабе і найлепш нават выхвальваны ды дарагі, не заменіць для дзіцяці грудзей.

Аднак-жа, калі маці змушана працаваць вонках дому і няма магчымасьці праз кожныя 3 або 4 гадзіны накарміць дзіцяці, дык ня трэба, барані Божа, зусім адлучаць яго ад грудзей: Тады робім дакармляньне дзіцяці, або дадаем яму адзін ці два штучныя харчы, а 4 або 5 разоў кормім яго грудзьмі.

Апрача працы вонках дому, дакармляньне бывае неабходным і тады, калі маці мае мала корму. Але часта мацяркі пачынаюць дакармляць вельмі рана: аб недахопе колькасьці корму судзяць „на вока“ або лёгка губляюць цярплівасьць, калі дзіця гультаяватае і ня хоча, як трэба, апаражняць грудзей, выпушчаючы іх у той час, як корм перастае лёгка цячы ў рот і яго трэба высмоктваць з пэўнаю натугаю. Гэтае належнае апаражняньне грудзей зьяўляецца нячувана важным: грудзі, лёгкаважаныя дзіцём, што раз дык менш выдзяляюць малака, і гэта якраз і ёсьць найчасьцейшаю прычынаю істотнага недахопу корму. А калі маці, замест таго, каб пабуджаць дзіця да мацнейшага ссаньня, пачынае вельмі рана даваць яму каровячае малако, дык дзіця яшчэ болей лёгкаважыць грудзі.

Дакармляньне здаровых дзяцей трэба пачынаць на 6-м месяцы жыцьця,—а раней толькі ў тых выпадках, калі важаньне дзіцяці пераканае нас напраўду, што дзіця не прыбывае на вазе. У гэткім выпадку найлепш было-б папрасіць рады ў лекара або ў адукованае апякункі здароўя, як уладзіць штучнае кармленьне, не адлучаючы дзіцяці ад грудзей і не падводзячы сябе пад небясьпеку поўнае утраты корму.

Штучны корм, дадаваны дзіцяці пры кармленьні грудзьмі, лепш даваць лыжачкай, а калі кормім бутэлькаю з сыскай, дык дзірка ў сысцы павінна быць маленечкая, каб дзіця піло праз яе памалу і мусіла ўжываць, як пры грудзёх, пэўныя натугі дзеля апаражненьня бутэлькі. Добрая рэч — дакармляць кармамі, гусьцейшымі за матчынае малако: кашка на малаку з дадаткам цукру.

**Правіла, як зрабіць кашкі і іншыя мяшанкі для дзяцей, знайдзеце ў чародным нумары.**
(„Kultura").

## Выбары ў Варшаўскую Гарадзкую Раду,

якія адбыліся 22-V 1927,

прадстаўляюцца гэтак:

З агульнага ліку мандатаў 120.

| | | |
|---|---|---|
| Сьпіс № 2 | П.П.С. адтрымалі . . . | 71.976 гал. (28 манд.) |
| „ № 4 | Агульна жыдоўскі саюз работнікаў „Бунд" . . . | 19.875 гал. (7 манд.) |
| „ № 5 | Жыдоўскі работніцкі камітэт „Поалей-Цыону" . | 7.862 гал. (3 манд.) |
| „ № 11 | Н.П.Р. (народная партыя работніцкая) . . . . | 6.294 гал. (2 манд.) |
| „ № 12 | Камітэт абароны польскасьці Варшавы (эндэкі) | 118.623 гал. (47 манд.) |
| „ № 16 | Жыдоўскі народны блёк | 39,392 гал. (15 манд.) |
| „ № 18 | Аб'яднаны камітэт выбарны жыд. раб. пры „Поалей Агудат Ізраэль" . | 5.822 гал. (2 манд.) |
| „ № 25 | Аб'яднаныя выбарчыя камітэты аздараўленьня гарадзкой гаспадаркі (партыя працы) . . . . | 49.673 гал. (16 манд.) |

Рэшта адтрымала вельмі нязначны лік галасоў.

Агульны лік галасоў уняважненых 66.578; важных галасоў падана — агулам 329.217, г. зн., што галасаваўшых было 65,2% з агульнае лічбы меўшых права галасаваць.

# Палітычныя навіны.

## Новыя маскоўскія дыктатары у Б.С.С.Р.

Менская газэта „Звезда" ад 8 мая буйнымі літарамі друкуе афіцыяльнае паведамленьне аб тым, што гэнэральны сэкратар, гэта значыць фактычны дыктатар Савецкай Беларусі, Крыніцкі звольнены са свае пасады, а на яго месца назначаны стары, вядомы ўжо ўсім беларусам, вораг беларушчыны, латыш Кнорын, які апошнімі часамі працаваў у Маскве ў Ц.К. Усесаюзнай Кампартыі.

Адначасна з пераменаю галоўнага дыктатара звольнены з пасады і яго памоцнік старшыня Савету Народных Камісараў Адамовіч Язэп, а на яго месца назначаны нікому невядомы Галадзед. Афіцыяльнае паведамленьне, пакуль што, кажа толькі аб зьменах галоўных кіраўнікоў палітыкі Масквы ў Беларусі, але з тае-ж газэты „Звезды" можна даведацца, што зьмены зроблены і на другарадных пасадах. Звольнены сэкрэтар Ц.В.К. беларус Чарнушэвіч і аб яго лёсе нічога няведама, а на яго месца назначаны б. прадстаўнік Б.С.С.Р. у Маскве Хацкевіч. Характарна таксама і тое, што а ні Жылуновіч, а ні Ігнатоўскі, не ўвайшлі ў савет нацыянальнасьцяў С.С.С.Р. і як відаць адсунуты ад кіраўніцтва палітычнаю працаю.

Зьмена камісараў у Менску азначае нейкі новы паварот савецкае палітыкі ў адносінах да беларусаў— паварот да яшчэ большае цэнтралізацыі.

### Разрыў зносін Англіі з Саветамі.

27 траўня ангельскі ўрад перадаў Савецкаму прадстаўніку ў Лёндане Розэнгольцу ноту аб разрыве дыплёматычных і гандлёвых зносін паміж Англіяй і Саветамі. Нота напісана вострымі словамі і дае тэрмін 10 дзён на выезд з Лёндану ўсяму савецкаму прадстаўніцтву. Адначасна з гэтым ангельскі ўрад запрапанаваў сваім прадстаўніком у Маскве, Ленінградзе і Уладывастоку пакінуць Саюз Савецкіх Соц. Рэспублік.

### Мобілізацыя Савецкіх войск.

З Токіо паведамляюць, што савецкі ўрад выдаў прыказ аб мобілізацыі савецкіх войскаў, якія мусяць у першую чаргу быць высланы на кітайскую граніцу і ў Кранштадт.

---

## Паштовая скрынка.

Антон Манін у Радашкавічах. Прысланую корэспондэнцыю выкарыстаем. Сталай пэнсіі сваім корэспондэнтам ня плацім. У залежнасьці ад цэннасьці матар'ялу плацім ад радка.

С. Белаіц. Газэту Вам высылаем. Зрабеце запытаньне на пошце. Матар'ялаў чакаем.

Бяздольны селянін у Гэрмановічах. Ясная рэч, што пішэце, з ахвотай будзем карыстаць з вашых корэспондэнцыяў. Песьні перададзены ў літэратурны аддзел,

Пётры Саковічу ў в. Матылёх. Газэту будзем высылаць, корэспондэнцыю выкарыстаем.

Нікапар Гірна. Корэспондэнцыя Ваша ня мае, шырэйшага значэньня. У ёй знаходзяцца асабістыя парахункі. І таму яна другіх не зацікавіць.

Пралеска ў Радашкавічах. Корэспондэнцыю выкарыстаем.